# Самапамач Гаспадар

Двутыднёвы беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.

№ 4 (57).
Год VI.
Вільня. 10 Красавіка, 1937 г.
РЭДАКЦЫЯ: Вільня, Полацкая вул. № 9—4.
Рэдактар прыймае ад гадз. 9 да 11 ран.
АДМІНІСТРАЦЫЯ Вільня, Завальная № 1.


# Шукаюць дарог у сяло

У суботу 3 г. м. у Вільні адбыўся мнагалюдны (быццам) сход запрошаных „прадстаўнікоў мясцовага земляробства“, на якім галоўным прамоўцам быў генэрал Л. Жэлігоўскі. Гаспадары сходу — „rolnicy z wyższym wykształceniem“ — дзякуем ім! — на гэты сход нас ня клікалі і мы аб ім думаем і пішам толькі на падставе вестак прэсы польскай і свайго беларускага сумленьня.—Скуль і як пайшла думка скліка765ньня гэтага сходу?

Шуканьне дарог да сялянства—справа ня новая. Ня цэлы год таму назад ў Варшаве адбыўся ўсепольскі зьезд „дзеля падняцьця культуры вёскі“. Аб рэальных працах гэтага зьезду да сягоньня неяк глуха. А вось больш-менш каля новага сёлетняга году ведамым сталася анкета (апытальнік) генэрала Л. Жэлігоўскага да ўсіх гмін і грамадаў Віленскага ваяводзтва аб тым, **што, хто і як думае рабіць дзеля падняцьця дабрабыту нашых вёсак.** Аб рэзультатах гэтага апытальніка і аб сваіх выснаўках і гаварыў на ўспомненым суботнім сходзе ў Вільні генэрал Л. Жэлігоўскі. Гаварылі на гэтым сходзе і іншыя прысутныя, а аб супольна намечаным пляне працы Віленскае „Słowo“ між інш. напісала: „*Каб-жа ён* (плян) *знайшоў сваіх выканаўцаў... Тады ген. Жэлігоўскі выбавіць Віленшчыну другі раз*“. — Першы раз — паводле думкі польска-абшарніцкага рэдактара—ген. Ж. выбавіў Віленшчыну ў 1920 годзе, калі на чале польскага войска заняў яе і гэтым даў магчымасьць фармальна далучыць да Польшчы.

Што-ж даведаліся прысутныя на ўспомненым сходзе 3.IV.1937?

Ген. Жэлігоўскі даволі востра скрытыкаваў дагэтуляшні спосаб працы як у земляробскіх, так і ў самаўрадавых арганізацыях. Прысутныя зразумелі, што так званыя дабравольныя земляробскія арганізацыі па нашых сёлах жывуць і праядаюць агульна-грамадзкія грошы з падаткаў. Належаньне да такой арганізацыі гэта сыты прывілей да таго часу, пакуль арганізаваных сяброў няшмат. Разрост такой „арганізацыі“ азначаў-бы здрабненьне прывілеяў. І таму гэтыя „дабравольныя арганізацыі“, будаваныя абяцанкамі розных прывілеяў, у нас не разрастаюцца — ня маюць на гэта падставаў.

„Конікам“ генэрала Жэлігоўскага аднак ёсьць гэтак званы самаўрад тэрыторыяльны: гміна, сяло (грамада). І тут не вясёла. З 96-цёх адказаў на ўспомнены апытальнік, прысутныя на сходзе даведаліся, што закон аб самаўрадах у нас ня выконваецца. Войты лічацца толькі з старастамі ня лічацца з выбаршчыкамі. У гмінах вытварыўся й трымаецца шкодны тып „самаўрадавых прафэсыяналаў“, якія замест працаваць для дабра самаўраду, вядуць закулісныя інтрыгі.

Ажыўленьне самаўрадавага і гаспадарскага жыцьця ўсе прысутныя на сходзе ўважалі за канешнае, каб зьвязаць жыхара нашае вёскі з Польшчаю. Гміна павінна працаваць з уласнае ініцыятывы, не „з наказу з-гары“, а ў жыцьці гаспадарскіх арганізацый трэба імкнуцца да масавасьці, выкідаючы стуль выпадковае „zbiorowisko ludzi często słabych i sprzedajnych“. У аканчальным слове адзін з прысутных (праф. Ластоўскі) выразіў думку, што ўсе гэтыя намеры будуць выкананы, бо за іх ўзяўся ген. Жэлігоўскі.

Гэтулькі аб успомненым сходзе ведаем з польскіх газэт.

Можа гэтыя весткі ня поўныя. Але калі яны адпавядаюць сапраўднасьці, калі на ўспомненым сходзе сапраўды ня было гутаркі ні аб чым іншым, як толькі тое, што падала польская прэса, дык пазволім сабе выразіць

1. наша найглыбейшае зьдзіўленьне над аднабокасьцю нарадаў ведзеных людзьмі з вышэйшай адукацыяй і

2. пераканаьне, што і гэтыя пастановы астануцца па-

становамі на паперы, хоць-бы ім патронаваў нават так высокі аўторытэт, як ген. Жэлігоўскі.

Чаму?

Бо як самаўрадавае, так і гаспадарскае жыцьцё, калі яно мае быць жыцьцём, павінна апірацца на мясцовым насельніцтве, бяручы пад увагу ягоны **склад і патрэбы**. Сход „земляробаў“ 3.IV.37 г. у Вільні гэтага „не дагледзіў“: ні паўсловам не дакрануўся да тае праўды, што ў сёлах Віленшчыны жывуць **і беларусы і літоўцы...**

Беларусаў і літоўцаў у сёлах Віленшчыны абмінуць ня можна!

## На шэрым канцы.

Прадстаўлены польскім міністрам Квяткоўскім дзесяцігодні плян разбудовы гаспадаркі, у першую чаргу мае наўвеце гэтак званы Цэнтральны Вокруг (Варшава і шырокія аколіцы). У гэтым вокрузе маюць быць пабудаваны розныя фабрыкі. Нашы-ж землі, заселеныя ў большасьці беларусамі, літоўцамі, таксама як і украінцамі, у гэтым пляне пастаўлены на „шэры канец“, — забыліся... А пасьля — будуць „дзівавацца“, што жыцьцё наша „адсталае“, „някультурнае“ і г. д. — А найцікавей тое, што прадстаўнікі коопэрацыі („Spólnota Pracy“ № 5) гоняць па гэтай самай дарозе цэлай парай.

## *АД ВЫДАВЕЦТВА.*

*Пачынаючы ад гэтага нумару паступова ўстрымліваем высылку нашага часапісу ўсім тым, хто дагэтуль ня прыслаў нам падпіскі.*

*Кожны, хто хоча атрымоўваць часапіс наш стала, ва ўласным інтарэсе хай зараз-жа прышле нам падпіску разрахунковым пераказам, які мы выслалі ў папярэднім нумары „Самамапочы“.*

*Выдавецтва „Самапомачы“.*

## Чым жыве селянін у Польшчы?

Паводле аблічэньняў Земляробскага Інстытуту ў Пулавах, селянін у Польшчы ў 1926—30 г. спажываў уласных прадуктаў на суму 105 з паловай грашоў, а ў 1934—35 г. толькі на суму 39 з паловай грашоў, гэта знача толькі 37 з паловай працэнтаў таго, што спажываў перш. Яшчэ больш, бо да 34 працэнтаў абніжылася спажыцьцё селянінам прадуктаў купляных, перадусім кухонный снасьці, вугля, мыла, карасіны і інш.

Калі гаварыць аб паасобных прадуктах земляробскай вытворчасьці, дык у гэным-жа часе абніжылася спажыцьцё прадуктаў з збожжа (мука, крупы) да 38 прац., бульбы — да 44 з паловай прац., малочных прадуктаў — да 33 з паловай прац., мяса і сьвіннога сала — да 6 з паловай прац., яец — да 45 прац., мёду — да 25 прац. і г. д.

Асабліва трывожным ёсьць абніжэньне вартасьці спажываных сялянамі ў гэтым часе вырабаў малочных. Тлумачаць гэта тым, што сяло наагул менш спажывае сягоньня малака, а калі й спажывае, дык пераважна прадукты горшага гатунку (малако спад цэнтрагонкі замест малака поўнага і інш.). Што гэта кепска адбіваецца на здароў'і падрастаючага пакаленьня — кожнаму зразумела.

*(П.А.З.)*

## Непадзельнасьць гаспадарак?

Праект закону аб непадзельнасьці гаспадарак унёс у Сойм дзеяч ОЗН-у пасол Бартчак. Паводле гэтага праекту, калі ўласьнік гаспадаркі да 50 га уключна дабравольна забавяжыцца не дзяліць свае гаспадаркі, дык зусім звальняецца ад падатку спадковага, дахадовага, паловы грунтовага, часткова звальняецца ад аплатаў штэмплёвых і нотарыяльных, а такжа дастане пазычку на сплату даўгоў.

Польскія сяляне („Пяст“) хоць у засадзе і прызнаюць патрэбу непадзельнасьці сялянскіх гаспадарак, то аднак у зложаным праекце закону бачаць звычайную ахвоту нагарадзіць быўшых дзеячоў з ББ і здабыць іх для новатворанага ОЗН—палкоўніка Коца.

**Інж. Ад Клімовіч.**

# Асновы земляробскай эканомікі. 3)

Уладаньне кожным земляробскім капіталам, вымагае ад самога ўласьніка пэўных коштаў: аднаразовых — на куплю і бягучых, якія абцяжваюць гаспадарку нават тады, калі сам капітал ня зужываецца. Тут знаходзіцца адна з небясьпекаў перагружэньня гаспадаркі лішнім капіталам, каторы лежачы бяз ужытку „просіць есьці“ і „зьядае“ сапраўды ня мала. Агулам капіталы вымагаюць коштаў на: 1. апрацэнтаваньне, 2. амортызацыю (пагашэньне), 3. страхоўку, 4. рэмонт (папраўкі) і 5. падаткі. Ня кожны капітал вымагае ўсіх гэтых коштаў. Разгледзім іх папарадку.

### Бягучыя выдаткі земляробскага капіталу.

*1. Працэнт* (%). Калі нехта паложыць свае ашчаднасьці ў банк, дык атрымоўвае за гэта працэнты, вышыня якіх у першую чаргу залежа ад таго, на колькі бясьпечны зварот, — і ад часу, на які грошы паложаны. Калі-ж нехта замест лажыць у банк свае ашчаднасьці, купіць за іх зямлю, пабудуе дом, купіць гаспадарскі інвэнтар, дык мае таксама права спадзявацца працэнту, які прынята рахаваць: ад капіталу зямлі — 3—3 з паловай проц. (вялікая бясьпечнасьць!), а ад капіталу будынкаў — 4 проц.; капітал уложаны ў мёртвы інвэнтар і ў запасы апрацэнтоўваецца найвышэй (5—10 проц.), бо тут і найбольшае рызыка звароту ўложаных коштаў.

*2. Амортызацыя.* Паасобныя часьці земляробскага капіталу, за выняткам капіталу зямлі, у працэсе земляробскай вытворчасьці нішчацца, адны хутчэй, другія павальней. Гэту страту капіталу пры аблічаньні чыстага прыбытку трэба замяшчаць капіталамі новымі, ці — як кажуць — пагашаць (амортызаваць). Частка прызначаная на гадавую амортызацыю залежа ад таго, як доўга даны прадмет ужываецца.

Прыклад. Малачарская цэнтрагонка, купленая за 450 зл., вытрымае праз 15 гадоў. Дзелячы вартасьць гэтай цэнтрагонкі гадамі ейнай ужывальнасьці (450:15=30) атрымаем, што з кожным годам такая цэнтрагонка траціць на вартасьці 30 зл., якія й трэба штогод адпісываць.

*3. Рэмонт.* Пры ўжываньні розных земляробскіх капіталаў, некаторыя часьці іх псуюцца, падчас калі ўся рэшта гэтых капіталаў яшчэ зусім прыдатныя да ўжытку. Гэткія сапсаваныя часьці трэба або папрвіць або замяніць новымі. І адно і другое вы-

# Што, як і калі рабіць?

*(Земляробская тэхніка).*

## У поле!

Рана сёлета пачынаецца вясна. Прынамся так, як дагэтуль. Ужо мясцамі, асабліва на ўзгорках, глеба паверсе сусім абсохла. На гэтыя ўзгоркі трэба нечакаючы выйсьці і ў час пачаць ашчаджаць зімовую вогкасьць, аб вартасьці якой і небясьпецы страты гаварылі мы на гэтым месцы ў апошнім нумары „Самапомачы.“ Сказалі мы там, што адпаведная вогкасьць (сырасьць) патрэбная ў глебе як дзеля ўтрыманьня яе ў адпаведнай будове (крупнатай), так дзеля распушчэньня кармавых сучастак глебы і дзеля „напаеньня“ самай расьліны. Калі ў глебе ня хопіць адпаведнай вогкасьці, тады ня толькі глеба зьбіваецца ў цьвёрды ком, ня толькі смагне ад нястачы „піцьця,“ але і галадуе, хоць-бы самага корму ў глебе было няведама як шмат. Вада гэта быццам „кухар,“ які сыры, недаступны для расьліны корм пераварвае, робіць яго даступным як страву. Дзеля гэтага зразумелай ёсьць патрэба ашчаджаньня гэтай вады ў глебе зразу з раньняй вясны. І земляроб ашчаджае яе — часта нясьведама—абрабляючы сваю глебу рознай гаспадарскай снасьцю. Першай такой вясьнянай снасьцю, як мы ўжо пісалі, ёсьць **валачыла**, якое хоць і прасушывае верхні пласт глебы, то ў аканчальным рэзультаце аднак захоўвае ў глебе большую часьць запасу зімовай вогкасьці. — Такое валачыла кожны можа лёгка сабе зрабіць, паводле рысунку, пададзенага такжа ў апошнім нумары „Самапомачы.“

Калі-ж хто валачыла такога сёлета ня мае, той з канешнасьці мусіць здаволіцца лёгкай бараной, якая хоць памагае прасохнуць самаму верхняму пласту зямлі, але забесьпячае ад страты ўсяе цэннае вогкасьці ў глебе.

—Трэцяй з колеі снасьцю да абрабляньня глебы ёсьць плуг, які, пры месцы кажучы, вясной ужываць трэба і можна толькі найрадзей і з найбольшай асьцярожнасьцю. Дзеля таго аднак, што вясной найчасьцей гаспадар купляе плуг і дзеля таго што плуг зьўляецца ў нас снасьцю галоўнай, скажам колькі слоў і аб ім.




**І. Формы паліцаў да плуга.**
1, 2 і 3 — паліцы шрубавыя, 4 — паліца цыліндрычная.

Наўперад зазначым. што галоўным заданьнем плуга ёсьць пераварачываньне верхняга пласта глебы **раз у год** і прыворываньне хлеўнага гною. Драбленьне глебы ёсьць для плуга заданьнем другарадным. Добрае пераварачываньне глебы і добрае прыворываньне гною залежа ад паліцы плуга, якая можа быць або *цыліндрычнай* або *шрубавой*. Кожная з гэтых аснаўных формаў можа мець і мае розныя формы пераходныя. На далучаным абразку паказана схэма (цыфры: 1, 2, 3) паліцы шрубавой, якая добра адкладае ськібу, але горш яе крышыць і (цыфра 4) паліцы цыліндрычнай, больш стацьцявой, якая горш адкладвае, горш прыворывае, але затое лепш баразьняную ськіву крышыць.

Практычна бяручы кожная з гэтых паліцаў добрая на адпаведнай глебе. І так: плуг з паліцай 1 (глядзі далучаны рысунак) прыдатны на глебы вязкія і заросшыя ўсякім пустазельлем (сарняком); плуг з паліцай 2, поўшрубавой, найбольш пашыраны; завецца ён „унівэрсальным,“ бо і добра адкладывае і ненайгорш крышыць. Падобныя свомасьці мае і плуг з паліцай азначанай 3: ужываецца на глебах новых, задзярнелых, балоцістых. — Поўная проціўлегласьць названым плугам ёсьць плуг з паліцай 4: гэта паліца цыліндрычная, якая вельмі добра крышыць, але кепска адкладвае. Плуг з гэткай паліцай можна ўжываць на глебах лёгкіх, скорапахатных, незаросшых травой.

Іншыя свомасьці плуга маюць вартасьць другарадную і аб іх пагаворым у час вальнейшы.

*С. Я—віч.*



магае выдаткаў. Пасьля дакладнага рэмонту некаторая гаспадарская снасьць становіцца больш цэннай, чым была прад рэмонтам. Тады ягоную вартасьць трэба адпаведна збольшыць пры сьпісываньні інвэнтуры ў канцы году.

*4. Страхоўка.* Земляробскі капітал выстаўлены заўсяды на небясьпеку і зьнішчэньне ці то агнём, ці градам, хваробамі, наглымі выпадкамі і г. д. Проціў гэтых страт земляробы культурных старон дабравольна страхуюцца ў сваіх таварыствах. Складка на страхоўку тым большая, чым большая небясьпека напр. агню, ці граду і г. д.

Урэшце

*5. Падаткі*, у першую чаргу зямельны, самаўрадавы і інш.

### Ацэнка земляробскіх капіталаў.

У земляробскай эканоміцы ацэнка капіталаў ёсьць так важнай, як навука аб гнаеньні ў прадукцыі расьліннай ці навука аб кармленьні ў прадукцыі жывёлагадаўлянай. Ацэнка земляробскіх капіталаў залежа ад коштаў вытворства, ад ходкасьці капіталу ў рыначным абмене і ад карыснасьці. Залежна ад гэтага вартасьць можа быць: **вытворчая, заменная (купная і прадажная) і ўжытковая.** Гэтыя вартасьці могуць быць *абсолютныя*, калі ўстанаўляецца сталая цана ў грашах, або *адносная* ці параўнаўчая, калі вартасьць капіталу ўстанаўляецца ў параўнаньні з падобным капіталам іншым; напр. ужытковая вартасьць саломы на падсьцілку можа ацэньвацца вартасьцю торфу.

**Капітал зямлі** Вартасьць зямлі, як капіталу земляробскай гаспадаркі, залежа ад якасьці самай глебы (пясок, гліна) і падглебя, ад клімату (сьвятло, цяпло, прымаразкі, дажджы, град, вятры), доступу да вады прыдатнай у гаспадарцы, формы ўладаньня (хутар, сяло), аддаленасьці ад шляхоў спалучэньня (шаса, чыгунка), рынкаў збыту, вялікасьці абшару (дробная ці вялікая гаспадарка) і г. д. і урэшце гаспадарскую вартасьць пэўнага абшару зямлі павялічвае права неабмежанага ўладаньня і зьмяншае — права іншых асоб да ўжываньня (не ўладаньня!) напр. права праходу, прагону, сьцежкі і г. д.

Ацэньваецца зямля звычайна вартасьцю заменнай — купле-продажай. Больш аднак адпавядала-б праўдзе ацэнка зямлі паводле вартасьці **прыбытковай**. Вартасьць купле-прадажная складаецца з самай цаны зямлі і коштаў злучаных з заменай уласьніка (прыгатаваньне „купчых“ дакумантаў, страчаны на гэта час і г. д.).



## Калі што сеяць?

Важная гэта рэч адгадаць дакладна і точна пару, калі трэба сеяць вясной розную ярыну. У розных кніжках падаюцца часта большменш сталыя тэрміны такой сяўбы. Карыстаць з іх аднак ня можна, бо ў адным і тым-жа месцы адзін год бывае вясна ранняя, а другі— позная. Калі ў годзе з раньняй вясной такія „дні сяўбы“ і могуць выпадкам спраўдзіцца, ды само сабой зразумела, што ў годзе з познай вясной такія дні спраўдзіцца ня могуць. А калі да гэтага дадаць розьніцу географічнага палажэньня дадзенае мясцовасьці, дык тым выразьней станецца, што розным будзе напр. час сяўбы ў Беластоцкім павеце і Ашмянскім, ці тым больш Браслаўскім. Яшчэ большая няпэўнасьць сталых „дзён сяўбы“ будзе зразумелай, калі ўцямім, што вялізная, калі не пераважаючая частка пашыраных у нас гаспадарскіх кніжак і газэт друкуецца нейдзе ў далёкай Варшаве, ці йшчэ далей. Вот-жа прыймаючы ўсё гэта пад увагу, трэба сьцьвердзіць дзьве аснаўныя рэчы: рэдка якая другая кніга так зьвязана з месцам, як зьвязана кніга гаспадарская, а калі мова аб „днёх сяўбы“, дык іх ніколі ня можна зьвязываць з нейкім днём нярухомым.

Дзеля ўстанаўленьня „дзён сяўбы“ найлепш карыстацца такімі зьявішчамі мясцовае прыроды, як распусканьне лістоў і зацьвітаньне розных дрэваў. Гэтыя зьявішчы прыроды пасьпісаныя і ўпарадкаваныя ў кожным годзе і ў кожным месцы служаць найлепшым дарадчыкам, калі, дзе і што трэба сеяць. Дырэктар Дасьледчай станцыі ў Беняконях (Лідчына), праф. Ластоўскі, прытрымоўваючыся гэтых прыродных законаў і фізыёлёгічных вымаганьняў паасобных расьлін, радзіць захаваць гэткі парадак: найраней сеяць гарох, морхву, яравое жыта. Расьліны гэтыя сеем, як толькі ральля на гэтульні абсохне, што падчас прыкрыцьця насеньня, ня мажыцца каля зубоў бараны ці ролькаў сеялкі. Сіні лубін на насеньне сеем падчас зацьвітаньня лазы, г. зн. (у Беняконях) паміж 20—24 красавіка. У гэтым так-жа часе сеецца яравая пшаніца, двурадовы ячмень, авёс і ячмень чатырох-радовы. Наагул пажадана, каб з сяўбой яравога збожжа кончыць да часу распусканьня лістоў і зацьвітаньня клёну (пачатак мая). Пасьля гэтага садзіцца бульба і сеецца лубін на прыараньне. Між 22—25 маем садзіцца кукуруза, шальбабон, з тым выраxаваньнем, каб абыйшлі пасьля 4—6 чэрвеня, калі ўжо менш загражаюць начныя прымаразкі, якіх гэтыя расьліны баяцца. — Урэшце сеецца грачыха. *—іч.*

## Сейце сэрадэлю.

Сэрадэля гэта расьліна лёгкіх, безвапенных глебаў, абы толькі ня былі за сухія. На глебах цяжкіх, зьліўных, стала церпячых ад недастатку вогкасьці (вільгаці) ўраджай сэрадэлі няпэўны. Карысна сэрадэля ня толькі як вельмі цэнная, багатая на бялкі паша у зярняці, у стане сьвежай зялёнасьці або сушанага сена, але можа быць выкарыстана і як цэннае, багатае на азот — зялёнае ўгнаеньне, бо на карэньні сваім гадуе бактэрыі, якія магазынуюць вольны азот з паветра.

З гэтае прычыны сэрадэля павінна ў нас скрось гадавацца, тым больш што яе можна або сеяць адну або ўсейваць у расьліну іншую, напр. у жыта.

Спосаб сяўбы сэрадэлі самой толькі, знача бяз жыта ці якой іншай расьліны, зусім просты. Ня можна толькі сэрадэлю сеяць на глебе вясной узаранай, бо такое араньне лёгкую глебу вельмі высушвае і памагае зарастаць рознаму пустазельлю. Сэрадэля спачатку расьце вельмі павольна і таму пустазельле можа яе лёгка заглушыць. У нясухім годзе дае багаты ўкос вельмі добрай пашы. Масла з малака ад кароў кормленых сэрадэляй мае дасканалы смак, запах і вельмі прыгожы жоўты колер.

Аднак большае яшчэ значэньне мае сэрадэля як усеўка. Звычайна ўсейваецца яна ў жыта, хоць у шмат ваколіцах усяваюць яе і ў рэдка сеены авёс. Сэрадэля буйна разрастаецца, а скошаная разам з аўсом і па абмалоце скормліваецца быдлу разам з аўсянкай. Аддзяліць-жа насеньне сэрадэлі ад насеньня аўса даволі лёгка, бо розьніцца яно і сваей формай і сваей вялікасьцю.

Усейваючы сэрадэлю ў жыта можна выкарыстаць яе двума спосабамі. Па скашэньні азіміны сэрадэля буйна разрастаецца і яе можна паступова касіць і карміць скаціну, а рэшту—заквасіць або прыараць. Дасушываць сэрадэлю ўвосені, калі дзень кароткі і сонца слаба прыгравае, вельмі трудна. З націскам трэба падчыркнуць, што заквашваць сэрадэлю трэба толькі сьвежую, проста спад касы, найлепш разам з расой ці даждЖом. Падсушаную, а нават і хоцьбы толькі крыху прывяўшую сэрадэлю заквашваць ня можна.

Проста неацэненай ёсьць сэрадэля як зялёнае ўгнаеньне. У шмат аколіцах гаспадарваньне на лёгкіх глебах, якія маюць крыху вогкасьці, магчымым ёсьць толькі дзякуючы сэрадэлі. Сабраўшы жыта пазваляем сэрадэлі добра разрасьціся, пасьля прыворываем яе і сеем або ўзноў азімае жыта, або ярыну. Можна так-жа на прыараней сэрадэлі садзіць і бульбу, але тады прыворываецца сэрадэля толькі на вясну.

З штучных угнаеньняў удзячная сэрадэля за паташ.

Як ведама жыта можна праз доўгія гады сеяць па сабе, абы толькі глеба мела досыць пажывы. Гэта так званае вечнае жыта. Поступ працы гэткі: раньняй вясной усейваем у жыта сэрадэлю, сабраўшы азіміну пазваляем сэрадэлі разрасьціся, пасьля гэта сэрадэля прыворваецца і ўзноў сеецца жыта. На другі год паўтараецца тое самае.— Што год трэба дадаваць паташ, а часта аплачваецца дадаваньне і ўгнаеньняў фосфарных...

Усейваць сэрадэлю ў жыта трэба як найранейшай вясной, як толькі можна ўвайсьці на поле. Калі сеем сеялкай у радкі, дык на гэктар хопіць 25—30 кілё сэрадэлі; а калі сеем з рукі, дык трэба йшчэ дадаць 5—6 кілё на такі-ж гэктар. Сеяць трэба старанна, перадусім роўна, каб ня было пустых мясцоў.

*П.А.З.*

## Смаршчкі — раньнія грыбы.

Найранейшыя грыбы — гэта смаршчкі і падобныя да іх, крыху пазьнейшыя, пестраніцы У нас абодва гэтыя грыбы ўважаюцца як смаршчкі, пры гэтым адны іх уважаюць за грыбы ядомыя, а іншыя — за атрутныя. Тымчасам гэта два сусім розныя грыбы. Смаршчок (бо *зморшчаны*) мае „капялюш“ з углыбленьнямі наперамену з вузкімі, доўгімі фалдамі.

Увесь грыб мае форму падоўжную, вырастае найраней, часам калі яшчэ на полі ляжыць сьнег, ядомы (неатрутны) пасьля зварэньня ў 1-шай ужо вадзе.

Крыху йнакш стаіць справа з пестраніцай: вырастае пазьней за смаршчка, мае выгляд круглаваты і пласкаваты, прыпамінаючы гэтак баранюю шапку. Паверхня фалдзістая, вельмі падобная да каракулавага кажуха, або зьвярачага мазга. Пестраніца так як ёсьць—ёсьць грыбом атрутным і яе трэба насамперш адварыць у адной вадзе, зьліць і пасьля зварыць у вадзе цалком сьвежай.

Абодва гэтыя грыбы маюць шырокі збыт як на краёвым, так і на загранічным рынку, асабліва смаршчок. Трэба толькі яго на рынак рана падаць і наагул зьвярнуць на яго больш увагі, тымбольш што расьце ён ня толькі ў лясох, але і на лясных палянах, у зарасьлях, парках, агародах і наагул у такіх мясцох, у якіх іншыя грыбы не спатыкаюцца.

*(П.А.З.)*

## Кармовая морхва.

Малазямельле, якое мясцамі гранічыць у нас з беззямельлем, змушае выкарыстоўваць кожную пядзю зямлі і кожны вольны мамэнт, каб перад усім павялічыць запасы пашы. Да гэтага вельмі надаецца кармовая морхва як усеўка.

Спачатку морхва не баіцца зацяньваньня. Таму можна яе сеяць разам з аўсом, гарохам, макам, просам, а галоўна з лёнам. Усееная морхва разьвіваецца спачатку вельмі павалу і пачынае моцна расьці толькі тады, калі „пакрываючая" расьліна (авёс, лён ці якая іншая) зьбярэцца з поля. З гэктара усеенай у гарох морхвы зьбіраецца ня менш 100 мэтр. цэнтнараў, а ўсеенай у мак дык аж 200 м. ц І гэта тады, калі гэтак усейваная морхва ніякага дадатковага догляду не патрэбавала.

Калі параўняць морхву з іншымі акопнінамі, дык яна вельмі багатая у кармавыя складнікі, а да таго яна мае йшчэ і вельмі цэнныя гэтак званыя „дыетэтычныя" свомасьці пры кармленьні жывёлы: ратуе ад усякіх затрыманьняў у страватраўчых органах жывёлы (у трыбусе і ў кішках). Але гэтыя свомасьмі праяўляе морхва толькі тады, калі яе скармліваюць толькі самую, бяз прымешкі сечкі і сырую. Морхва вараная гэтых сваасьцяў ужо ня мае.

Асабліва цэннай ёсьць морхва як паша для цялят і жарабят, бо мае у сабе шмат вапны і фосфару, які памагае добра разьвівацца касьцям маладняка і бароніць яго ад рахітычнасьці (выкрыўленьня косьцяў). Добрай пашай ёсьць морхва і для дойных кароў: калі дойнай карове не даваць бульбы і бурака, дык можна даваць у дзень на штуку да 20 кілё морхвы. Цялятам і ялаўкам даюць морхвы ад 2 да 10 кілё, залежна ад веку і вагі. Коням пры цяжкай працы даецца морхвы ў дзень да 10 кілё, а жарабятам – ад 3 да 5 кілё. Морхвай кормленыя коні добра выглядаюць і маюць гладкую блiскучую поўсьць.

*С. М.*



*БЕЛАРУСЫ! Шануйце сваё роднае друкаванае слова. Прачытаную „Самапомач" ня нішчце, але дайце прачытацьяе сваім суседзям, знаёмым Прысылайце падпіску. Пішэце ў рэдакцыю — Вільня, Полацкая 4-9 аб сваім жыцьці і аб тым, што — па Вашаму — трэба было-б у «Самапомач» дадаць, а што выкінуць ці папрвавіць. Падавайце выразна свой адрэс.*

## Як адратаваць дрэўца абгрызенае зайцамі?

Каму ня ведамае гора ўласьніка маладых ушчэпаў, якія раптам абгрызуць зайцы, трусы ці нехта там яшчэ іншы?! Кара патрэбна дрэўцу ня толькі як прыкрыўка, але і як спосаб развядзеньня па ім аджыўчых сокаў. І калі з нейкай прычыны дрэўца такое раптам астанецца кругом без кары, дык гэта прыблізна тое самае, што рынак адгароджаны ад вольнага давозу: дрэўца без кары жыць ня можа і, калі яго не ратаваць, дык не раней а пазьней, а напэўна загіне.

Але не заўсёды.

Калі кара абгрызена толькі на няшырокім прасторы, дык ратунак яшчэ ёсьць. Гэткі выпадак паказаны на далучаным рысунку: зьлева — дрэўца абгрызенае пасярэдзіне — прыгатаванае да ратаваньня і з-права — з наложаным „бандажом". Спосаб накладаньня гэтага „бандажа" відаць з самага рысунку. Парадак працы гэткі:



**Мастковае прышчэпліваньне дрэўца** абгрызенага зайцамі.

Найперш абгрызеныя берагі кары на дрэўцы трэба роўна абрэзаць вострым нажом. Тады трэба прыгатаваць чатыры тоненькія жывыя ветачкі, так доўгія, каб маглі абхапіць рану зверху ўніз і яшчэ каб асталіся вольныя наўкос зрэзаныя канцы на прыкладку. Таксама трэба мець два кускі ліповага лыка.

Як гэта ўсё прыгатавана, тады зьверху і зьнізу раны робяцца вострым нажом па чатыры разрэзы ў форме літары „Т" (уверсе гэта літара ставіцца дагары). У гэтыя разрэзы ўстаўляюцца загадзя прыгатаваныя галінкі і ўсё абвязваецца лыкам так, як гэта паказана на далучаным рысунку — з правага боку. Творыцца гэтак званы „масток", па каторым хутка пачнуць плыць жыўныя сокі, дрэўца пачынае расьці нанова і рана паволі зарастае.

Гэткі спосаб ратаваньня абгрызенага дрэўца называецца шчапленьнем „на масток" і практычнымі садоўнікамі вельмі хваліцца.

*В. Р.*

*Kutok dla haspadyń.*

## Pascha.

Pascha heta asablivaje vialikodnaje bluda. Kaliści było bolš pašyranym. Siahońnia, z pryčyny ahulnaha abiadnieńnia, pryhataŭlajecca radziej. Symbolika jahonaja adnak padaŭnamu — asabliva ŭ pravasłaŭnych — tak vialikaja, jak napr. u našych katalikoŭ kućciavaja apłatka. Tamu z pryhatavańniem paschi treba paznajomicca.

Na 2 kilo śviežaha, dobra vycisnutaha i na masu raściortaha tvarahu biarecca 10 žaŭtkoŭ, ½ kilo masła, 80 deka dobraj śmiatany. Usio heta razam raźmiešvajecca, kładziecca ŭ pabielany rondal, stavicca na plitu i razahravajučy ŭściaž miašajecca, kab nie pryhareła. A jak razahrejecca (ale kab nie zakipieła!), tady zdyjmajecca z plity, krychu studzicca i ŭkładajecca ŭ jaho ad 40 da 80 deka cukru, pačku vanili, ½ šklanki sałodkich mihdałaŭ i ½ šklanki korynkaŭ (drobnych razynak). Mihdały treba prad tym aparyć haračaj vadoj, paśla źniać skurku i drobna pakroić, a karynki dobra vymyć i razłažyć na čystaj tkaninie, kab absochli. Jak astynie razahretaja masa, tady treba ŭ jaje ŭłažyć mihdały i karynku, vymiašać, paśla ŭsio heta ŭlić u redkaje pałatno („klinok") i nacisnuć kamieniam, kab vycisnułasia, jak heta robiać z tvarožnym syram. (Lišnie vycisnutuju paschu (za suchuju) adnak nia kožny lubić.

**M. Š.**



## Pierasadka vazonaŭ.

Vazon dobraja azdoba chaty, ale pavinien być dahledžany. Dahladam jość i pierasadka, jakoj mienšyja vazony vymahajuć što druhi hod, bolšyja radziej. Vialikich vazonaŭ, napr. palmaŭ, zusim nie pierasadžvajuć, u ich dosyć źmianić čaść tolki ziamli zvierchu.

Prystupajučy da pierasadžvańnia, treba pryhatavać usio patrebnaje napierad, h. zn. sam vazońnik (harščok) i prahnojeny čarnaziom. Vazońnik, u katory vazon pierasadžvajem, kali jon užo ŭžyvany, treba da čysta vymyć i vyšaravać, kab paadčyniać pory, praz katoryja da kareńnia budzie dachodzić pavietra. Pravilam jość, kab novy vazońnik byŭ bolšy ad papiaredniaha ŭ abvo-

dzie na jakija 2 cm., kab kareńni mieli volnaje miesca na razrost. Praznačany da pierasadžvańnia vazon padlivajem, kab raźmiakčyć ziamlu i choć paviarchoŭna ačyścić z ziamli kareńnie. Tady pieravaračvajecca vazon na adnej ruce tak, jak pakazana na rys. 1. Prytrymoŭvajučy sam vazońnik druhoj rukoj zvierchu, volna stukajem abiernienym ŭniz vierchnim jahonym bierahom ab stoł, pakul usio karenišča nia vypadzie na padłožanuju źnizu ruku.



*Rys. 1.* **Sposab vybirańnia vazonu z vazońnika.**

Vybranaje hetak karenišča treba ciapier dakładna abhledzić, usie staryja i asabliva nadhniŭšyja kareńni abrezać vostrym nažom, vykałupać tonieńkaj pałačkaj ziamlu z siaredziny karenišča i jak usio heta zroblena, prystupać da samaj pierasadki.




*Rys. 2.* **Pierasadka vazonu.**
1. šyjka vazonu, 2. nasypany kopčyk ziamli, 3. padsypany płast piasku, 4. dno vazońnika.

U novy vazońnik na samaje dno ŭsypajecca tonki słoj čystaha piasku (hladzi rys. 2.), na katory nasypajecca kopčyk pieraprełaha pierahnoju (čarnaziomu). Pa hetym kopčyku raskładajacca kareńnie vazonu i absypajecca tak-ža pierahnojem, jaki kala bierahoŭ staranna ŭtoptyvajecca zahadzia pryhatavanym kałočkam. Dasypajecca čarnaziom datul, pakul jon nie pakryje ŭsiu šyjku samaha vazonu i palivajecca. Padlity čarnaziom pavinien apaści da vyšyni šyjki, a što astaniecca paviarch hetaj šyjki, toje treba sabrać, bo šyjka pačnie hnić i vazon sapsujecca.

Najlepšy da pierasadžvańnia vazonaŭ čas — viasna; ale možna pierasadžyvać vazony i rańnim letam.

M. K.

## ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

— **Мэліорацыяў Браслаўшчыне і Сьвянцяншчыне.** Паводле падлічэньняў мэліорацыйнага рэфэрату ў Браслаўі, які абыймае сваей дзейнасьцю і павет Сьвянцянскі, за мінулы 1936 г. на абшары гэтых двух паветаў было выкапана 27.655 м. равоў, якіх абыймо мела 91.819 куб. м. У параўнаньні з іншымі абшарамі, мэліораваньне асабліва Сьвянцяншчыны, моцна асталося ўзадзе.

**Хутары ў Віленшчыне.** У 1937-38 годзе на абшары Віленшчыны прадбачыцца пераход на хутары 568 вёсак (абводаў) з 20.155 гаспадаркамі на 147.535 гэктарах зямлі. У паасобных паветах справа прадстаўляецца гэтак: у Браслаўскім — 141 вёска на 27.782 га з 3.756 гаспадаркамі; у Дзісенскім пав. 100 вёсак на 23.440 га з 3.457 гаспадаркамі; у Маладэчанскім пав. — 29 вёсак на 9.817 га з 1.742 гаспадаркамі; у Пастаўскім пав.— у 32 вёсках на 14.428 га з 1.718 гаспадаркамі; у Сьвянцянскім пав. — у 106 вёсках на 18.285 га з 2.487 гаспадаркамі; у Вялейскім пав. — у 46 вёсках на 18.790 га з 2.310 гаспадаркамі і ў Віл.-Троцкім пав.—у 82 вёсках на 22.254 га з 3.104 гаспадаркамі. — Пры працах занята будзе 38 каморнікаў казённых і 38 прысяжных прыватных. Кошт азначаных работ аблічаны на 659.150 зл.

**Гарбарні на Палесьсі.** Гарбарскі промысел на Палесьсі дагэтуль гуртуецца каля Рожаны і Давідградка. У фаховых кругох уважаюць за патрэбнае сарганізаваць новыя асяродкі гарбарскага промыслу ў паветах: Кошырскім, Століньскім, Берасьцейскім, ды ў некаторых паветах заходніх.

**На прырэзку для хутароў.** З наказу Віленскага ваяводзтва, 1. на дапаўненьне 19-цёх дробных гаспадарак з пераходзячых на хутары вёсак Касабукі і Бушава, Мікалаеўскай гм., Дзісенскага пав. бяруцца $34\frac{1}{2}$ гэктары зямлі з суседняга маёнтку *Дарашковічы* (уласнасьць А. Капылава), а на дапаўненьне 49 тэкіх-жа гаспадарак з вёсак Рачкі, Канюхі, Схолін і Палачаны — бяруцца 84 гэктары з маёнтку Сьвентажэцкіх *Рачкі* і 16 гэктараў з маёнтку Бэлдоўскай *Яхімаўшчына*.

Названыя грунты, калі ў працягу 4-ох месяцаў, ад дня уручэньня правамоцнага наказу, ня будуць проданы сялянам ці Зямельнаму Банку дабравольна, дык маюць быць выкуплены прымусова.

Па якой цане?

**Бясплатныя дэпэшы аб выпадках.** Міністэрства Пошт і Тэлеграфаў выдала загад, на падставе якога кожны мае права надаваць бясплатныя дэпэшы і тэлефонаграмы ў паліцыю аб такіх няшчасных выпадках, як пажары, заразныя хваробы, катастрофы (паводкі і інш.). Паштовы чыноўнік можа аднак жадаць ад асобы, што надае дэпэшу, асабістых дакумантаў (пашпарту).

**Малачарскі кангрэс** міжнародны сёлета адбудзецца ў Бэрліне 22—28 жніўня. Да канца лютага ўжо запісалася 448 рэфэрэнтаў. Склікае кангрэс „Сусьветны Малачарскі Саюз", заснаваны ў Брусэлі ў 1903 г.

## Цэны ў Вільні

**Збожжа** *6.IV.37 за 100 кл.*

| | |
|---|---|
| Жыта . . . . . . . | 25.00—26.00 |
| Пшаніца . . . . . | 31.00—32.00 |
| Ячмень . . . . . . | 22.50—25.00 |
| Авёс . . . . . . . | 21.75—23 00 |
| Грачыха . . . . . . | 30.00—31.00 |
| Мука пшонная . . . | 34.00 50.00 |
| Мука жытняя, да 50% | 37 50 38.00 |
| Мука жытняя разовая | 27.75—28.25 |
| Вотрубы пшонныя . | 16.55—16 75 |
| Вотрубы жытнія . . | —16.25 |
| Пялюшка . . . . . | 21.50 22.50 |
| Віка . . . . . . . | 22.00 28.00 |
| Лубін сіні . . . . . | 15.75—16.25 |
| Семя лянное . . . . | 46.00—47.00 |
| Лён трапаны(1.000кілё) | 1 700 —1.890 |
| Лён часаны . . . . | 1.960 2.000 |
| Кудзеля . . . . . . | 1.580—1.620 |

**Малочнае,** *1.IV.37 за 1 кілё.*

| | |
|---|---|
| Масла найлепшае, гурт | 2 95—3.10 |
| „ „ дэталь | —3.40 |
| Масла сталовае гурт . | 2 85—3.00 |
| „ „ дэталь | —3.30 |
| Сыр эмэнтальскі гурт . | 2.60—2.70 |
| „ „ дэталь | —3.20 |
| Сыр літоўскі гурт . | 1.40—2.20 |
| „ „ дэталь | 1.60—2.60 |
| Яйкі ў гурце за капу . | 4 80—5.70 |
| „ ў дэталю за штуку | $8\frac{1}{2}$ - 10 гр. |



# Што чуваць на сьвеце

## Гішпанскія паўстанцы наступаюць на баскаў.

Не дабіўшыся нічога на фронце мадрыцкім, паўстанскія войскі ўдарылі моцна проціў слабей умацаваных баскаў, якія, карыстаючыся з нутранай барацьбы ў Гішпаніі, абвесьцілі сваю незалежнасьць і дагэтуль стойка ад паўстанцаў яе баранілі. Цяпер аднак, як відаць, паўстанцы хочуць незалежніцкія імкненьні баскаў зламаць. — На іншых фронтах без важнейшых перамен. — У гішпанскім Марокко проціпаўстанскае забурэньне здушана.

## Зьмены ў бальшавікоў.

Газэты пішуць, што бальшавікі будуць рабіць у сваей партыі вялікую „чыстку". Ад 1 чэрвеня паадбіраюць усе сяброўскія білеты, а хто гэткіх білетаў не дастане назад, таго ў партыю ня прыймуць.

Не малое так-жа зьдзіўленьне выклікала вестка аб раптоўнай адстаўцы камісара пошт і тэлеграфаў, б. шэфа Г.П.У.—Ягоды. Ходзяць чуткі, што ён нават арыштаваны за растрату вялікай сумы казённых грошаў.

## Гітлер пагадзіўся з Людэндорфам.

У апошніх днях сакавіка ў Бэрліне была абвешчана ўгода паміж канцлерам Гітлерам і ведамым з Сусьветнай Вайны шэфам нямецкага генэральнага штабу ген. Людэндорфам.

—Ген. Людэндорф спачатку памагаў Гітлеру будаваць нац.-соцыялістычную партыю, але пасьля, непагадзіўшыся, пайшоў сваей асобнай дарогай, выступаючы вастра проціў усякага, а асабліва проціў р.-каталіцкага хрысьціянства. Сучасныя гішпанскія падзеі ген. Людэндорф таксама йнакш ацэньвае, як Гітлер: бачыць ён тут барацьбу масонаў (урад) і езуітаў (паўстанцы) і зусім ня спрыяе генэралу Франко.—Абвешчаную ўгоду рахуюць як прыгатаваньне да важных падзеяў.

## Дагавор Італіі з Югаславіяй.

У Белградзе 25 сакавіка сёл. Югаславія падпісала палітычную і гаспадарскую ўмову з Італіяй. Да гэтай умовы Італія была змушана ўкладам сіл у міжнароднай палітыцы і забавязалася ня ўціскаць болей славенцаў, землі каторых у вялікай меры загарнула ў свае граніцы пасьля Сусьветнай Вайны. — Прадстаўнікі Чэхаславаччыны і Румыніі, з каторымі Югаславія знаходзіцца ў саюзе ведамым як Малая Антанта, заявілі, што яны ня толькі нічога ня маюць проціў новападпісанай умовы, але нават з яе здаволены.

## Конфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаваў.

Конфэрэнцыя балтыцкіх дзяржаваў — Літвы, Латвіі і Эстоніі — склікаецца на дзень 3 мая ў Коўну.

## Немцы ў Польшчы і палякі ў Нямеччыне.

Паводле польскіх газэт: на 900 000 немцаў з Польшчы існуе 579 нямецкіх школ народных, у якія ходзіць 50 тыс дзяцей. Сярэдніх нямецкіх школ у Польшчы ёсьць 21, польска-нямецкіх—3, з 3 тыс. вучняў; да гэтага йшчэ 4 вучыцельскія сэмінарыі і 2 школы фаховыя — з 250 дзяцьмі. Нямецкіх газэт у Польшчы 96, якія друкуюцца ў 250 тыс. экз. Коопэратываў нямецкіх у Польшчы ёсьць 787.

Палякоў у Нямеччыне ёсьць больш мільёна і маюць там яны: 61 народную школу, адну прыватную гімназію, часапісаў польскіх выходзіць 17, а гаспадарскіх інстытуцый ёсьць 33

## Проціў бальшавізму і проціў гітлерызму.

За апошні час рымскі Папа выдаў два важныя пісьмы: адно проціў бальшавізму, а другое проціў гітлерызму. Гэта апошняе было прачытана ў нямецкіх касьцялох і выклікала такі гнеў гітлераўскай партыі і ўлады, што яны пагражаюць нават сарваньнем конкордату (умовы з Ватыканам).

## Хацелі падзяліць Чэхаславаччыну.

Англіцкія газэты апублікавалі праект падзелу Чэхаславаччыны, які быццам меліся пачаць мадзяры ў Славаччыне і дакончыць немцы у паўночных Чэхах. Гэты праект прадбачыў укрытую помач Мадзяршчыны і Нямеччыны. Дзеля таго аднак, што сучасны мадзярскі ўрад на такія спраўкі не згаджаўся, дык нацыяналістычныя кругі меліся там дайсьці да ўлады спосабам рэвалюцыйным і тады пачаць дзеіць. Паліцыя мадзярская гэты намер выкрыла і... ўся справа тымчасам „села на мель," а няўдачны кіраўнік мадзярскага „паўстаньня" — у вастрог. Дагадваюцца, што спружыны дзеючыя ў Мадзяршчыне выходзілі з нямецкага пасольства ў Будапэшце, хоць немцы бароняцца тым, што іхні пасол у час праектаванага перавароту быў быццам не ў Будапэшце а... ў Нямеччыне.

## Увага на пераездах праз чыгунку.

Шторазь часьцейшыя выпадкі на чыгуначных пераездах змушаюць прыпомніць абавязуючыя ў гэтай справе распараджэньні, паводле якіх:

1. Даяжджаючы да чыгуначнага тору трэба звольніць скорасьць, каб у кожную хвіліну магчы зусім затрымацца.

2. Уважаць на знакі чыгуначнай службы, а калі яе няма, дык самому ўпэўніцца, ці не надходзіць цягнік.

3. Прад пад'яжджаючым цягніком трэба затрымацца воддаль ад чыгуначнага тору.

4. Асабліва ўважным трэба быць на пераездах падчас імглы, на пераездах незамыканых або такіх, на каторыя цягнік выяжджае з нявідочнага закруту.

5. На праезьдзе ня можна ані затрымлівацца, ані разьмінацца ці аб'яжджаць.

6. Трымацца заўсяды правай стараны.

7. За нестасаваньне гэтых правілаў пагражае кара да тысячы зл. штрафу, або шэсьць тыдняў арышту ці адно і другое разам.

---

## Кнігі

прысланыя ў рэдакцыю:

1. Spółdzielczy Kalendarz książkowy 1937. Wyd. „Społem!" Warszawa. 1936.

2. **W. Kiślańska:** Za jednego gromada. Wyd. „Społem!" Warszawa. 1936.

**Edward Szymański:** ABC.,Wyd. „Społem!", Warszawa, 1936.

4. **K. Pomijalski:** Zielarstwo uspołecznione. Wyd. „Spólnota Pracy, Warszawa, 1937.

---

*ЯК БЫВАЕ У ЖЫЦЬЦІ.*

**Ня зьбіраецца ўміраць без вячэры.**

Старая бабуля ня йдзе вячэраць, бо — кажа — мне слаба й паміраць буду...

—Хадзі, бабуля, падкрапіся, дык і паміраць лягчэй будзе.

— Іду, дзеткі, іду! Я-ж яшчэ й не такая слабая: хто-ж вам казаў, што я ўміраць зьбіраюся.

---

*Пішучы ў рэдакцыю падавайце выразна сваё прозьвішча і адрэс.*

# У нас і ў суседзяў

## Беларускае жыцьцё.

— 25-ты сакавік — 19-я ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі — сёлета ў Вільні мінуў ціха. З арганізацыяў толькі адзіны Беларускі Нацыянальны Камітэт ушанаваў гэты дзень адумысным урачыстым паседжаньнем сваіх сяброў. Беларускі Студэнцкі Саюз ня здолеў у гэты дзень наладзіць адпаведнай Акадэміі, бо не дастаў на гэта дазволу ад сваіх унівэрсытэцкіх уладаў. Першы гэта падобны выпадак. Не дасталі так-жа дазволу на сьвяткаваньне свайго народнага сьвята і беларускія скаўты пры Віленскай Беларускай Гімназіі. Сама гімназія таксама нічога ў гэты дзень ня ладзіла. Калі да гэтага дадаць яшчэ, як аб гэтым мова ніжэй, канфіскаты на пярэдадні сьвята беларускіх часапісаў („Беларуская Крыніца“ № 2) і журналаў („Калосьсе“ № 1 (10), дык атрымаем больш-менш поўны абраз настрояў беларускага грамадзянства ў дзень свайго нацыянальнага сьвята.

— Канфіскаты. 24 сакавіка сёл. Віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі № 1 (10) беларускага літаратурна-навуковага квартальніка „Калосьсе“ за асобныя ўрыўкі з паэмы „Нарач“ і вершу „Песьня кулікоў“ М. Танка, за апавяданьне „Крыўда“ М. Васілька і інш. Рахуючыся з канешнасьцю вялікіх коштаў новага накладу, рэдакцыя, як чуваць, ня думае выдаваць новага выданьня гэтага самага нумару.

Таго-ж самага дня 24 сакавіка сёл. быў сканфіскаваны і № 2 „Беларускай Крыніцы“ з датай 25 сакавіка, за перадрук з „Chryśc. Dumki“ артыкулу „Аб патрыятызьме“ і за палову перадавіцы, прысьвячанай беларускаму народнаму сьвяту п. н. „Сіла ідэалу“.

— Выехаў лячыцца. У нядзелю 4 г. м. ведамы беларускі дзеяч Кс. А. Станкевіч выехаў з Вільні ў Трускавец (Галічына) лячыцца. Кс. Ад. Станкевіч ужо колькі год вельмі цярпеў ад хворасьці нырак. Хвароба гэта астатнім часам на гэтульки пачала дакучаць, што Паважаны хворы быў змушаны часова перарваць сваю цэнную работу і выехаць на нейкі час у Трускавец, дзе знаходзяцца спэцыяльныя лячэбныя крыніцы.— Кс. Станкевічу жадаем хуткага выздараўленьня і павароту да працы.

— Зьнялі канфіскату. Пастановай Віленскага Акружнога Суду з 18 сакавіка сёл. зьнята канфіската аднаднёўкі „Беларуская Доля“ (сакавік, 1937 г.), наложаная пісьмом Віленскага Гарадзкога Старасты з дн. 11.III.1937 г.

## У Літоўцаў.

— „Jaunimo Draugas“ — тыднёвы часапіс літоўскае моладзі ў Вільні спынены Судом на прапанову Віленскіх адміністрацыйных уладаў.

— Выселілі Я. Конопку. Польскія адміністрацыйныя ўлады выселілі з граніц Польшчы ведамага маладога культурнага літоўскага працаўніка Я. Конопку, які ў Вільні жыў ад 1917 году.

Ксяндза Фр. Беляўскага, ведамага літоўскага дзеяча, Віленскія духоўныя ўлады звольнілі з займанага ім становішча вікарага пры Віленскай катэдры

— Амнэстыя ў Літве. З прычыны Вялікодных сьвят прэзыдэнт Літвы Сметона дараваў кару для 60 палітычных вязьняў, сярод якіх ёсьць 10 чалавек клайпэдзкіх немцаў, засуджаных ваенным судом у 1935 г. на доўгалетнюю катаргу.

## У Палякоў.

— Спыняюць газэты. Пасьля спыненьня польскага штодзённіка ў Варшаве „Dziennik Popularny“ і жыдоўскага штодзённіка ў Вільні „Вільнэр Тог“, 30.III.37 г. паліцыя спыніла часапіс польскіх работнікаў (П.П.С.) у Львове п. н. „Trybuna Robotnicza“.

— Сьпявацкі зьезд у Торуні рыхтуецца на Сёмуху. Спадзяюцца прыезду 4 000 сьпевакоў з усяе Польшчы.

— Касуюць аўтаномію і абразаюць выбарны закон у Сойм? 14 ліпня сёл. мінаюць забавязаньні Польшчы аб аўтаноміі Горнага Шлёнска. У сувязі з гэтым польскія газэты дамагаюцца неаднаўляньня дагэтуляшніх прывілеяў гэтай краіны, а знача хочуць скасаваць краёвы Шлёнскі сойм, зрэфармаваць гаспадарскія (грашавыя) парадкі і наагул уаднастайніць усё жыцьцё Г. Шлёнска з рэштай Польшчы.

Многа таксама гавораць і аб зьмене выбарнага закону ў Польскі Сойм. Ёсьць на гэта шмат ужо праектаў, а адзін з іх (Студніцкага) не дапускае да выбараў людзей няграматных.

— 100 аўтамабіляў для Чырвонага Крыжа. 22 сакавіка сёл. Польскі Чырвоны Крыж набыў 100 новых аўтамабіляў для свае працы. Прысутны на прыняцьці гэтых аўтамабіляў маршал Сьмíглы дзякаваў Управе Чырвонага Крыжа, што яна ўмее думаць аб будучыні і аб вайне.

## З ВІЛЬНІ.

— З. Нагродзкі — да нядаўна ўласьнік ведамага на ўвесь край магазыну земляробскіх машын і ўсякага насеньня, а так-жа грамадзкі і палітычны дзеяч памёр 25.III сёл. на 72 годзе жыцьця Нябожчык у маладасьці сваей належыў да гуртка беларускае інтэлігенцыі, якім кіраваў Фр. Багушэвіч (Мацей Бурачок) і справамі беларускімі жыва цікавіўся да апошняй хвіліны. Доказам гэтага ёсьць між іншым ягоная дзейнасьць літаратурная, напр. год таму назад у Вільні пастаўленая тэатральная п'еска з уплятаным беларускім тэкстам п.н.„На Каляды“ і інш.

— Электрычнасьць у Вільні заведзена толькі ў палове дамоў: усяго дамоў у Вільні 8·071, а электрычнасьць маюць толькі 4.678 дамоў.

— Спынілі віленскіх эндэкаў Распараджэньнем Віленскага ваяводы з 23 сакавіка сёл. забаронена ўсякая арганізаваная дзейнасьць польскай эндэцкай партыі „Стронніцтво Народовэ“ ў Вільні і ў Віленска-Троцкім павеце. У сяброў гэтае партыі, як ведама, паліцыя знайшла склад пэтардаў і розных выбуховых матар'ялаў.

— Фальшывыя 20 і 40 грашоўкі - зьявіліся на віленскім рынку. Ад праўдзівых грашэй розьняцца яны тым, што літары і лісты дубовага вянка з лівай стараны мала выразныя, літары ў надпісе „Rzeczpospolita Polska“ — зьліваюцца з берагавой абводкай, а самыя берагі закругленыя.

— Эндэцкія штукі. Пасьля ведамага выбуху пэтарды (бомбы) ў цэнтралі Віленскіх эндэкаў д. 21.III, самі эндэкі спачатку наагул маўчалі, цераз тры дні заявілі, што ў іх выбухла ня пэтарда, а толькі ведамыя забаўкі — „жабкі“, а дзень пазьней зьявіўся афіцыяльны камунікат, што паліцыя выкрыла цэлы склад гатовых да ўжываньня пэтардаў (бомбаў), і розных складовых часьцей гэтых пэтардаў. Пяць арыштаваных эндэкаў, між імі старшыня студэнцкай моладзі „вшэхпольскай“, прызналіся, што пэтарды падкладалі



## Усячына.

= 100 гадоў фотографіі мінае сёлета Выдумаў фотографію француз Ньепс.

= Забаранілі варажыць, але ня ў нас. Паліцыя места Гамбург (Нямеччына) забараніла варажыць (усёроўна: дарма ці за плату) і прадаваць кніжкі аб варажбе і соньнікі. — Добра хіба гэта было-б і ў нас.

= Ст. А. Панятоўскі, апошні польскі кароль быў з паходжаньня жыдом. Прозьвішча „Понятоўскі“ даў яму бацька хрышчоны. Цьвердзіць гэтак жыдоўская газэта пісаная папольску „Nasz Przegląd“.

= 100 гадоў ад сьмерці А. Пушкіна мінула сёлета 11 лютага.

= Памярла В. Парылевічыха, якая ад чэрвеня мін. г. была ў вязьніцы ў Кракаве пад строгім сьледзтвам у справе шырокіхна дужыцьцяў.

*Хто аплаціў падпіску, а чарговага нумару часапісу не атрымаў, той хай зараз-жа складае РЭКЛЯМАЦЫЮ на сваей пошце: на адным баку кавалку паперы ўверсе хай напіша „Reklamacja gazetowa“ і наш адрэс, а з другога боку:*

*Не атрымаў №..... „Самапомачы“*

*— і дадасьць свой дакладны адрэс.*

*Больш нічога пісаць ня можна.—Такую рэклямацыю пошта павінна прыняць і даставіць рэклямаваны нумар бясплатна.*

*У СПРАВЕ ЗАРАБОТКАЎ. У наступным тыдні пачнём рассылаць працу тым, хто да нас раней зьвярнуўся. Запісы далей прыймаюцца. Пяршынство да працы маюць тыя, хто ўжо аплацілі падпіску на „Самапомач“.*

*Адміністрацыя „САМАПОМАЧЫ“.*

„Самапомач“ выходзіць 10 і 25 кожнага месяца.

ПАДПІСКА на „Самапомач“: да канца году — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл., за 10 шт. — 15 зл.). Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Беларуская друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1. Выдавец: „БЕЛПРЭС“